№20 (183)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Снежань 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Куда пропали обещанные Лукашенко $500?**

В октябре заработная плата почти у 40% работников, учитываемых официальной статистикой (сюда не относятся малые организации с численностью работников до 15 человек и индивидуальные предприниматели), составляла менее пяти миллионов рублей, сообщает БелаПАН.

По данным официальной статистики, в октябре в таких организациях работало 3,2 млн. человек. Зарплата более 1,2 млн. составила менее 5 млн. рублей (менее 500 долларов США).

Следует отметить, что средняя зарплата работников в последние месяцы практически не менялась. В августе она составляла 6,36 млн. рублей, в сентябре — 6,34 млн., в октябре — 6,38 млн. рублей.

### У Прыдняпроўі

**Супрацоўніца банка завалодала мільярдам рублёў укладаў пенсіянераў**

За дзевяць гадоў ад дзеянняў 45-гадовай жанчыны пацярпелі 16 чалавек, распачатая крымінальная справа.

Супрацоўніца аддзялення аднаго з банкаў Быхава на Магілёўшчыне завалодала больш чым 1 мільярдам рублёў укладаў пенсіянераў. З'яўляючыся матэрыяльна адказнай асобай, яна ажыццяўляла афармленне і заключэнне ад імя банка дамоваў па ўкладах насельніцтва. Жанчына мела інфармацыю пра наяўнасць грашовых сродкаў на рахунках укладчыкаў. Яна падрабляла расходныя касавыя ордэры і забірала чужыя грошы. Адбывалася гэта з ліпеня 2005-га да траўня 2014 года.

### У раёне

**СВК "Лебедзянка" знікне.**

30 снежня ў памяшканні ААТ "Бялыніцкае райаграпрамтэхзабеспячэнне" адбудзецца пазачаргowy сход акцыянераў гэтай арганізацыі і членаў СВК "Лебедзянка", на якім мяркуецца зацвердзіць рашэнне аб далучэнні СВК да райаграпрамтэхзабеспячэння.

# КЛАПАТЛІВЫЯ ВЫ НАШЫ…

***На мінулым тыдні дзяржаўныя СМІ з імпэтам паведамілі пра тое, што міністэрства гандлю нашай краіны ўвяло мараторый на падвышэнне коштаў аж да 15 студзеня 2015 года. Пра аналагічны мараторый наконт падвышэння коштаў на лекі ў аптэках абвясціла міністэрства аховы здароўя Беларусі. Адразу ж захацелася падзякаваць нашым любімым чыноўнікам за іх клопат пра нас, простых людзей, і за тое, што гэтыя слаўныя людзі даюць нам сустрэць Новы 2015 год з чаркай і шкваркай па мінімальных беларускіх коштах…***




Аднак сам я па характары чалавек, які чамусьці пастаянна сумняецца ў шчырых парывах душы нашых любімых бюракратаў, якія знянацку выращылі ашчаслівіць простых беларусаў, не падвышаючы кошты на ўсё, што толькі магчыма, як гэта чыноўнікі рабілі на працягу апошніх гадоў і дзесяцігоддзяў. Таму крыху паварушыў звілінамі, падумаў, прагледзеў вельмі шмат разнастайнай статыстычнай інфармацыі і высветліў – ды падвышаць кошты ў нас у квітнеючай Беларусі і так ужо проста няма куды (пры існуючым курсе "праклятых буржуінскіх грошай"), прадукты і тавары ў нашай "сацыяльна арыентаванай дзяржаве" і так каштуюць значна больш, чым ва ўсіх суседніх краінах. Высветлілася таксама, што прадаюць нашы мудрыя кіраўнікі сваю прадукцыю сельскай гаспадаркі і прамысловасці нашым суседзям нашмат танней, чым сваім "горячё любімым" грамадзянам.

Для прыкладу, паважаныя чытачы, - на інтэрнэт-сайце Мінсельгасхарчу Беларусі апублікаваныя рэкамендуемыя мінімальныя экспартныя кошты з 3 снежня 2014 года на шэраг прадуктаў харчавання. Думаю, вам будзе цікава даведацца, за колькі чыноўнікі рэкамендуюць прадаваць нашу сельскагаспадарчую прадукцыю: ялавічыну ахаладжаную – 3,49-4,07 долара за кг, замарожаную – 3,39-3,88 долара, сухое суцэльнае малако – 3,20$, сыры 40-50% тлустасці - 4,65-4,75 долара, масла сметанковае 72-82% тлустасці – 3,59-4,07 $. Сярэдні кошт продажу курыных яек, як інфармуе Белстат, склаў $0,67 за дзесятак.

Паважаныя чытачы, усе мы рэгулярна ходзім у прадуктовыя крамы,

*(Працяг на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# РЫГОРА КАСТУСЁВА БУДУЦЬ СУДЗІЦЬ

***16 снежня ў памяшканні Шклоўскага РАУС супрацоўнікі мясцовай міліцыі азнаёмілі намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва з пратаколам аб адміністрацыйным правапарушэнні, нібыта здзейсненым палітыкам падчас адзначэння Дня памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года.***




Таксама шклоўскія праваахоўнікі паведамілі Рыгору Кастусёву, што ўжо ў бліжэйшы час накіруюць пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў Свіслачы і іншыя доказы “супрацьпраўных паводзін” палітыка для разгляду ў суд Шклоўскага раёна.

Супрацоўнікі Шклоўскай міліцыі паведамілі спадару Кастусёву, што пратакол аб здзейсненым ім адміністрацыйным правапарушэнні з Свіслачы прыходзіць ужо другі раз, бо першы раз дакумент быў складзены з парушэннямі і быў павернуты шклоўскімі міліцыянерамі сваім свіслацкім калегам для дапрацоўкі. Паўторна з Свіслачы ў Шклоў накіравалі ўжо не толькі дапрацаваны пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, але і іншыя дакументы, у якіх распавядаецца пра “віну” Кастусёва, а таксама дыск з відэазапіссю мерапрыемства ў Свіслачы.

У Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года адбылося традыцыйнае ўшаванне памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, удзел у якім прынялі грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі. Таксама ў гэтыж дзень прайшло пахаванне мясцовага грамадскага актывіста Віктара Дзесяціка, якога праводзілі ў апошні шлях яго паплечнікі. На мерапрыемстве прысутнічаў і Рыгор Кастусёў, які выступіў там з невялікай прамовай, у якой адзначыў, што «барацьба за свабоду Беларусі, якую распачалі паўстанцы Каліноўскага дагэтуль не спынілася, яна працягваецца і галоўнае — атрымаць у ёй перамогу».

Увесь час на мерапрыемстве ад могілак у Свіслачы да сканчэння ў Якушоўцы прысутнічалі людзі ў цывільным, і міліцэйскі аператар усё фіксаваў на камеру. Цэлы шэраг удзельнікаў адзначэння Дня памяці ў Свіслачы ўжо пакараныя вялікімі штрафамі.

Спадар Кастусёў кажа, што ў яго асабіста вялікае абурэнне выклікае тое, што супрацоўнікі міліцыі, замест таго, каб займацца сапраўднымі злачынцамі – карупцыянерамі, наркадылерамі і г. д., - займаюцца тым, што пераследуюць апазіцыянераў, а на астатнія рэчы не звяртаюць увагі. Таксама Рыгора Кастусёва абурыла тое, што на прадстаўленым з Свіслачы відэаматэрыяле ў якасці доказаў правапарушэння былі і здымкі з пахавання мясцовага грамадскага актывіста Віктара Дзесяціка, якога яго паплечнікі сёлета праводзілі ў апошні шлях якраз у Дзень памяці герояў.

“Ужо і провады чалавека ў апошні шлях для нашых “ахоўнікаў парадку” – злачынства”, - кажа Рыгор Кастусёў.

15 снежня на кватэру намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва ў Шклове завіталі два супрацоўнікі мясцовай міліцыі. Яны пакінулі сваякам палітыка позву, у якой абавязалі Рыгора Кастусёва прыбыць у Шклоўскі РАУС 16 снежня ў 12-00, бо ў райаддзел даслалі з Свіслачы пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, быццам бы здзейсненым Рыгорам Кастусёвым.

***Барыс Вырвіч***

# КЛАПАТЛІВЫЯ ВЫ НАШЫ…

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

бо есці ж хочацца, ведаем курс долара, бо, навучаныя горкім вопытам, захоўваем у праклятых буржуінскіх грошах свае зберажэнні. Таму можам адразу прыкінуць, па якіх жа коштах рэалізуюць уласным грамадзянам вышэйзгаданыя прадукты нашы клапатлівыя чыноўнікі (можаце нават адразу ж адкінуць 20-30% гандлёвую надбаўку, каб атрымалася дакладная лічба).

Прыкінулі? Тады самі можаце падлічыць, што кошт рэалізацыі гэтых прадуктаў на ўнутраным спажывецкім рынку перавышае экспартны кошт прыкладна ў два разы, а калі сказаць прасцей, родныя клапатлівыя беларускія чыноўнікі ў нашай сацыяльна арыентаванай дзяржаве дзяруць з нас за прадукты ў два разы больш грошай, чым з тых жа расіян ці іх ворагаў украінцаў.

Ды і тое браты-расіяне па прапануемых ім цэнах беларускую прадукцыю браць не вельмі хочуць, адмаўляюцца, свалачугі, гэта ж не памяркоўныя беларусы, якія ўжо прызвычаіліся плаціць за прадукты і тавары нашмат даражэй, чым усе іх суседзі. Праўда, апошнім часам і яны распесціліся – едуць у Расію, бо мяжы ж няма, і купляюць прадукты і тавары сваёй жа беларускай вытворчасці на 30-40% танней, чым ва ўласнай краіне. Не цэняць клопат нашых мудрых кіраўнікоў, няўдзячныя, вывозяць валюту з краіны.

Скажу больш, бо, як карэспандэнт некаторых інтэрнэт-сайтаў, маю магчымасць перыядычна бываць у ўсходніх рэгіёнах Магілёўшчыны – там вялікая частка насельніцтва купляе ў родных беларускіх крамах толькі самае неабходнае, а на вялікія закупкі едзе ў тую ж Расію. Дарэчы, абсалютна аналагічная сітуацыя і на польскай, украінскай і літоўскай мяжы. Толькі што там правезці цяжэй, бо мытны кантроль прысутнічае.

Ведаю, што нават з нашага Бялыніцкага раёна ўжо не дзесяткі, а сотні людзей рэгулярна ездзяць за пакупкамі ў той жа Смаленск. А чаму не ездзіць, калі дарога цалкам акупляецца і яшчэ крыху застаецца? Мой знаёмы купіў той жа халадзільнік “Атлант” у Расіі на 40% танней, чым

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# НЕ МЫТЬЁМ - ТАК КАТАНЬЕМ!

***В нашем Круглом, как и везде, во всём виноваты дураки и дороги. Не было бы дорог – не было бы и заборов вдоль них. А значит не было бы и дураков, для которых заборы стали проблемой номер 1.***



*Зинаида Милещенко*

В тот знаменитый год наведения порядка на земле, новый председатель Круглянского райисполкома не только спилил деревья в Круглом и на районе вдоль дорог, но и дал указ загородить главную улицу Советскую новым забором. Дизайн был выбран "охрененный"! А цвет соответствовал творческим способностям чиновников. И это деревянное чудо искусства протянулось на три с половиной километра (такова протяжённость Круглого ), поражая всех серым одинаковым цветом. На склонах это сооружение как-то несимметрично (потому что имело выступающие конструкции вверху) «перекосоёб…лось» и под забором могла пробежать не только курица, но и собака. Поэтому жильцы «осчастливленных» домовладений заделывали дыры, кто чем мог.

Надо вам сказать, что в ранее поставленных хозяевами заборах, столбы были железобетонные, т.е. вечные. Но их изымали вместе с ветхим забором, а иногда и хорошим, и увозили на территорию ЖКХ. Где незаметно, при попустительстве руководства, раскрадывались чиновниками района. Круглянское «царское село» обзавелось заборами почти бесплатно, хоть скажу я вам, там живут не самые бедные люди. Попутно так же исчезли во дворах чиновников и железобетонные плиты с пруда парка и тротуара улицы Строителей. Да и не только. Исчез в неизвестном направлении и металлический забор, каким был обнесён центральный парк. По самым скромным подсчётам, на территорию ЖКХ было завезено более 3 000 железобетонных неучтённых столбов. Почему неучтённых? Потому что если бы их пересчитали, то вряд ли можно было бы их приобрести у рабочих, изымающих их у хозяев.

Но время шло и, не пощадив трудов работников ЖКХ, заборы обветшали. А так как они были установлены на деревянных столбиках, не обработанных внизу раствором от гниения, то улица Советская через 10 с небольшим лет стала иметь вид запустения и нищеты. И тогда владельцам домов было «предложено» самостоятельно установить железобетонные заборы, произведённые в местном райбыткомбинате. Таким образом руководство района хотело забить двух зайцев:

1. Заменить, позорящий их и Круглое, забор на центральной главной улице.
2. Поддержать «штаны» разоряющемуся комбинату.

Для этого каждому хозяину, чей дом находился на главной улице городского посёлка, были разосланы бумажки с требованием заменить забор, а также рекомендации, какой забор необходимо установить.

Хозяева, посчитав стоимость ограждения, схватились за голову. Из семейного бюджета на украшение Советской улицы необходимо было потратить в среднем около 8 миллионов рублей, что при средней заработной плате в 2 миллиона, надо было полгода не есть и не пить ради общественного забора. И многие люди своё согласие не дали и забор менять не стали.

И тогда районные руководители пошли «на крайние меры». Они снесли обветшавший забор и вывезли его снова на территорию ЖКХ. И теперь главная улица г. п. Круглое приобрела вид бомжатника. Наверное, руководство решило, что люди всё равно вынуждены будут загородиться по весне. Но тогда, господа, верните заборные столбики. Ведь в своё время они приобретались на личные деньги жителей данной улицы.

А в заключение хочется сказать: желание выслужиться иногда вылазит боком, решающие сиюминутные проблемы чиновники не только не умеют считать государственные деньги, но ещё и попутно стараются залезть в карман обывателей. Странно также и другое, что все тогда промолчали, не потребовали отдать своё обратно, хотя и знали, что деревянный забор – явление временное. Вот и получается, что сами себя наказали. А ведь можно было и тогда решить этот вопрос по-хозяйски. Выделить часть денег, потраченных на установку деревянного забора каждому хозяину и обязать установить забор, который бы отвечал бы и по эстетике, и по качеству, самостоятельно. И хозяин, потратив на забор и свои деньги, и свой труд , не отнёсся бы так халатно к своему имуществу. Он бы за ним ухаживал. А так получилось, что его не только ограбили, присвоив железобетонные заборные столбы, но ещё и сейчас стараются залезть к нему в карман, решая не его, а свои, чисто чиновничьи вопросы.

В общем, все, как всегда, люди остались в дураках. И мне мало верится, что улица Советская украсится новым железобетонным забором. Скорее всего, кто как сможет, так и отгородится. Потому что легче найти кота в тёмной комнате, даже если его там нет, чем заставить человека, не имеющего средств, потратиться на, не его, в общем-то, проблемы.

***Зинаида Милещенко***

2 декабря Белыничским РО СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 2 УК (Грабёж) в отношении неработающего, ранее судимого жителя г.п. Белыничи, 1983 г.р., который 27 ноября, находясь в квартире по ул. Первомайской, после совместного распития спиртных напитков, открыто похитил продукты питания и 395 тыс. руб. у хозяйки квартиры, 1969 г.р.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НАДО МЕНЯТЬ СИСТЕМУ

***В известном анекдоте советских времён, сантехник, которого в очередной раз пригласили в дом для устранения течи в прохудившейся трубе, трезво оценив ситуацию, заявляет: «Да здесь надо менять всю систему, а не только одну трубу». Что-то подобное в полной мере сегодня наблюдается и в экономике Краснопольского района, основу которого составляет сельское хозяйство в лице единственного субъекта хозяйствования – ОАО «Краснопльский».***

## Часть1. «С чем боролись, на то и напоролись»

После насильственной «реформы» образца 2008—2009 года, когда все сельхозпредприятия района согнали в одно, под названием УКСП «Краснопольский», уже к концу 20011 года местная вертикаль и вышестоящие областные и республиканские инстанции убедились, что сотворили что-то не то. Что УКСП «Краснопольский» - не жизнеспособное предприятие, и его кому-то надо поддерживать и содержать. Поскольку в Краснопольском районе нет крупных и финансово богатых предприятий и организаций, то было решено «повесить» его на холдинг ОАО «Могилёвагромаш», преобразовав в ОАО. Сказано, сделано. И уже новый, 2013 год труженики бывшего УКСП «Краснопольский» встречали в качестве работников ОАО «Краснопольский».




Операция по изменению формы хозяйственного устройства «Краснопольского» была проведена настолько оперативно и скрытно, что многие его работники, и даже журналисты областной газеты «Земля и люди» ещё до середины 2014 года говорили и писали про УКСП, а не про «ОАО». Операция «Ы» удалась не до конца, став ОАО, «Краснопольский», тем не менее, не стал частью областного холдинга. По крайней мере, на сайте последнего в интернете в качестве субъекта предприятия он не наблюдается. Надо заметить, что начиная «реформу» сельскохозяйственного производства Краснопольского района в конце 2007 - начале 2008 года, тогдашний председатель райисполкома А. Ветошкин публично заявлял о том, что после создания единого УКСП «Краснопльский» отпадёт необходимость иметь в структуре райисполкома управление сельского хозяйства и продовольствия с его достаточно многочисленным штатом работников. Тем более, что правление ОАО «Краснопольский» находится на расстоянии менее 1 км. от здания райисполкома. Можно пешком в течение шести-семи минут дойти друг до друга и решить все проблемы. Однако и сегодня в штате райисполкома полный комплект работников райсельхозпрода и 100-процентное обеспечение их транспортом по принятым нормативам. А вот в управленческом штабе ОАО «Краснопольский» уже который месяц числятся огромные пробоины в виде вакансий: Директора с окладом в 10 млн. рублей, главного инженера, главного энергетика, двух агрономов, ветврача и зоотехника. Скоро будет год, как обязанности директора ОАО исполняет начальник отделения «Краснопольский» В. Бардонов. Кстати, нет в Краснополье желающих занять и должность первого заместителя председателя райисполкома, курирующего сельское хозяйство и одновременно являющегося начальником райсельхозпрода. Его обязанности, по настоянию руководства райисполкома, вот уже несколько месяцев исполняет В. Карпов, со всеми вытекающими отсюда результатами. А они и в этом, относительно благоприятном по погодным условиям году, малоутешительные. Можно отметить лишь, что по сравнению с прошлыми годами получен более высокий урожай зерновых,— 25,3 тысячи тонн, или больше прошлогоднего на 20%. Это позволило по итогам 9 месяцев текущего года увеличить производство валовой продукции к соответствующему периоду 2013 года на 3,7% при задании 5,3%. В тоже время, валовое производства молока к прошлогоднему уровню снизилось на 7%, удой на корову упал на 140 кг и по итогам 2014 года вряд ли достигнет 2500 кг. Валовое производства молока по итогам 2014 года ожидается в пределах 3200—3250 тонн. В связи с этим нужно вспомнить, что, согласно программы социально—экономического развития Краснопольского района на 2011-2015 годы, валовое производства молока должно было составить по итогам работы в 2014 году—18000 тонн. Производство мяса КРС снизилось к уровню 2013 года на 20% и составило всего 475 тонн. По итогам 2014 года его производство ожидается в пределах 560—580 тонн. Между тем, по пятилетнему плану социально—экономического развития в 2014 году производство говядины должно было составить—1200 тонн. Кроме того, прогнозировалось наладить производство свинины в объёме 350 тонн в год. По предварительной оценке, по

*(Продолжение на стр. 5)*

# НАДО МЕНЯТЬ СИСТЕМУ

*(Продолж. Начало на стр. 4)*

итогам этого сельскохозяйственного года ОАО «Краснопольский» получит убытки в размере около 2,3 млрд. рублей. Его задолженность по кредитам и займа приблизится к 150 млрд. рублей. Количество и качество производимой и реализуемой на сегодняшний день сельскохозяйственной продукции (молоко, мясо) ОАО «Краснопольский» не позволяет обеспечить даже минимальный уровень заработной платы, гарантируемый государством. Напомню, что в конце 2007 года, когда власти района при поддержке верхов начали компанию по созданию в районе одного сельскохозяйственного производителя, экономические показатели деятельности были намного лучше. Общая задолженность всех хозяйств района оценивалась в 70 млрд. рублей. Были хоть какие-то кадры руководителей и специалистов, рядовых тружеников. За период с 2008 по 2014 год число работающих в сельскохозяйственном производстве района, по неофициальной информации, уменьшилось с 1600 человек до 800. У районного руководства того времени были хоть какие-то надежды и вера в «светлое» будущее. Сейчас — полный «упадок и общее уныние». Ни у кого из властных структур, - ни на уровне руководства Краснопольского района, ни выше, - по информации, имеющейся в распоряжении журналистов негосударственных газет, нет конкретных предложений по выходу из создавшегося тупика в аграрном секторе района в сложившейся и функционирующей экономической и политической системе белорусского государства.

## Часть 2. Вместо администрирования — рыночный менеджмент.

В последнее время с всё большей ясностью перед руководством страны и обществом встаёт проблема необходимости реформирования агропромышленного комплекса страны, да и всей экономики Беларуси, созданной и функционирующей на принципах административного управления, и показывающую низкую эффективность и слабую конкурентоспособность на основном рынке сбыта белорусского продовольствия в соседней России, денежная единица которой с начала 2014 года потеряла около 45% стоимости по сравнению с основными мировыми валютами. По этой причине только за август—сентябрь этого года потери отечественных экспортёров составили 160 млн. долларов.

Предлагаемые и реализуемые модели организационно-экономической реструктуризации сельскохозяйственных предприятий, в том числе и 4 указа А. Лукашенко, подписанные в июле этого года, практически не касаются системы управления АПК. Напротив, в условиях усиливающейся экономической депрессии, она даже усиливает свой административный характер. Этим подрываются и дискредитируются все другие реформаторские мероприятия, поскольку система управления, как важнейший мотиватор, призвана создать условия для свободной конструктивной реализации всего комплекса факторов. На примере Краснопольского эксперимента мы в достаточно полной мере показали, какой вред экономике и социальной сфере может нанести руководитель—администратор с огромными властными полномочиями и правами служения централизованной системе, в которой главный судья—не подчиненный коллектив и население региона, а вышестоящий начальник, часто в единственном числе, которого нетрудно сделать покровителем. В ходе краснопольского эксперимента району нанесён огромный вред, за который так никто из руководства района или области и не ответил. И сегодня никто не собирается определять потери, которые понесли трудовые коллективы, государство и общество.

Однако, рассматривая проблему глубже, приходишь к мысли, что основной ущерб от административно—волюнтаристской системы хозяйствования заключаются даже не в огромных материальных потерях и попрания человеческого фактора, а в том, что в длительном процессе голого администрирования утрачены историческая культура производства и национальные традиции ведения сельского хозяйства. Например, как этот произошло в Краснополье, каждый более-менее ответственный руководитель пытался решать стоящие проблемы «кавалерийским наскоком», силой власти насаждая методы организации производства, приносить неестественные элементы хозяйствования, на которые был способен. Это было и остаётся обычной практикой централизованного управления и, продолжаясь длительное время, даже нормой, от которой невозможно уйти. В народе по этому поводу даже сложилась поговорка: «Новая метла метёт по новому».

Контроля и отсеивания чуждых, а порой даже и вредных по последствиям решений, не существует. Да и такой контроль при сложившейся системе организации производства, социальной и политической жизни в советской и современной Беларуси в принципе не возможен. Как, в прочем, и любые прогрессивные и эффективные методы хозяйствования. Конечно же, —это драма. Правда, даже в столь пострадавшем Краснопольском районе, не все хотят её замечать, потому, что без администрирования не могут себе представить функционирование хозяйственной системы. Попытка её преобразования наталкивается на непреодолимую стену сопротивления той же административной системы, по инициативе которой это же «реформирование» и проводится. Казалось бы, это парадокс, если подходить к оценке ситуации исходя из простой логики. Но, как говорили ещё древние римляне, если хочешь найти истину, то ищи того, кому это выгодно. Так вот, все эти «реформирования» села проводятся руководством страны, в лице А. Лукашенко и его ближайшего окружения, для сохранения собственной власти. Реформирование—ради реформирования, чтобы в очередной раз пустить пыль в глаза народу.

Вспомним программу возрождения села на период 2005—2010 годов, полный провал которой, несмотря на много миллиардные траты, во всей красе проявил себя уже к концу 2012 года, и 4 указа Александра Лукашенко лета 2014 года о новом реформировании сельскохозяйственного производства до конца 2016 года. Глядишь, так и 11 лет можно пробыть

*(Окончание на стр. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ТРЫМАЦЦА КАРАНЁЎ

“Навокал кіпела жыццё
Ці плаўнай плыло ручаінай,
Застаўся ён сведкам адзіным
Таго, што пайшло ў небыццё…”

***А. Войлакава,***
***урывак з верша “Стаяў у Бялынічах дуб” (2005)***




## 1. Сімвал моцы і непахіснасці

Колькі жылі на зямлі беларускай людзі, стаўленне да дрэва як да жывой істоты, а часам нават як да магічнага культавага аб’екта былі самыя высокія і ўзнёслыя. Кожнае дрэва выконвала сваю сакральную функцыю, але асобнае месца ў іерархіі дрэваў займаў усё ж такі дуб.

З самых старажытных часоў продкі сучасных беларусаў заўважылі галоўныя моманты існавання магутнага дрэва ў прыродзе: непахіснасць, моц, доўгія гады жыцця, надзейна захаваная ўласная тэрыторыя. Лічылася, што дуб можа дапамагчы сваёй энергіяй – даць сілу перад бітвай, падказаць правільны шлях, дапамагчы схавацца ад бяды.

Паважлівае стаўленне да легендарнага дрэва засталося і да сённяшняга часу. У шмат якіх рэгіёнах дубы ахоўваюцца і з’яўляюцца гонарам сваёй зямлі. Напрыклад, два самых старых дуба Беларусі растуць у Маларыцкім раёне. Першаму больш чым 800 гадоў. Ён мае 37 метраў у вышыню і дыяметр каля двух метраў. Яго называюць Цар-дуб. Лічыцца, што ён здольны зараджаць чалавека станоўчай энергіяй і бадзёрасцю. Каля яго ў мінулыя часы нават вяселлі гулялі. Другому дубу каля сямісот гадоў. І да гэтага волата мясцовыя людзі ставяцца з вялікай павагай.

У Докшыцкім раёне на Віцебшчыне ёсць пяцісотгадовы дуб. Тут існуе павер’е, што варта толькі дакрануцца да дрэва — і хваробы знікаюць, людзі папраўляюцца. Але славіцца магутнае дрэва яшчэ і тым, што пад яго шатамі адпачываў сам Тадэвуш Касцюшка.

Ёсць, безумоўна, і ў іншых месцах легендарныя старажылы. Напрыклад, Уладзімір Караткевіч у апавяданні “Дрэвы вечнасці” апісаў дуб-волат ля вёскі Данілевічы Лельчыцкага раёна, які і зараз там расце ў гармоніі з прыродай. Па дадзеных Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у нашай краіне зарэгістравана сорак тры дрэвы, якія абвешчаны батанічнымі помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння.

**Даведка этнографа:**

“У беларусаў культ дрэў шырока распаўсюджаны. Многім дрэвам пакланяюцца яшчэ і сёння. Згодна з павер’ямі, некаторыя з іх валодаюць лекавай сілай. Святым дрэвам раней прыносілі хлеб і соль, загорнутыя ў чыстую халсцінку. На галінкі вешалі ручнікі. Святымі лічыліся некаторыя бортныя дрэвы. Распаўсюджаны былі павер’і, што калі дрэва рубяць, то з яго ідзе кроў, чуваць стогны, а калі дрэва зарыпіць, то гэта прыкмета таго, што ў ім пасялілася чалавечая душа, і той, хто рубіць дрэва, вымушае душу шукаць іншы прытулак [Чарновская, 1818, с. 116—117; Богданович, 1895; Никольский, 1929; Зеленин, 1933, с. 591-629].

Найбольшай пашанай ва ўсе часы ў беларусаў карыстаўся дуб. Многія паклонныя дубы знаходзяцца каля крыніц, культавых камянёў. Захаваліся назвы культавых дубоў — Волат, Асілак, Святы Дуб, Добры Дуб, Трохгранны Дуб, Перуноў Дуб, Стары Дуб, Саўкін Дуб і інш.

На такія назвы наслаіліся больш познія, звязаныя з гістарычнымі асобамі — Вітаўтаў Дуб, Напалеонаўскі Дуб, Дуб Адама Міцкевіча.

Так, Вітаўтаў Дуб згадваецца ў дакуменце за 1627 год непадалёк ад в. Прудзіны, якая зараз на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна [Историко-юридические..., вып. 22, с. 459].

У Бешанковічах яшчэ і зараз людзі паказваюць дуб, пад якім нібыта сядзеў Напалеон [Зайкоўскі, 1995, с. 199]. Падобныя паданні існуюць і пра адзін з дубоў пры дарозе з Глыбокага ў Шаркаўшчыну.

Пра культ дуба яскрава сведчаць знаходкі 1869 года на тэрыторыі былога Барысаўскага ўезда. У лесе, у дупле вельмі старога дуба, сяляне знайшлі два язычніцкіх ідалы. Адзін ідал быў з серабра, а другі з бронзы [Тышкевич, 1865, с. 136—137].

Дуб пад назвай Волат рос на капішчы ў Мінску, якое праіснавала на беразе Свіслачы да пачатку XX стагоддзя. На галінкі дрэва вешалі ручнікі, а жалуды з дуба лічыліся святымі [Ляўкоў, 1992, с. 43—53].

Хутчэй за усё, ад язычніцкага капішча застаўся і Святы Дуб у горадзе Паставы, на беразе ракі Мядзелкі. Яшчэ ў нядаўнія часы дубу насілі манеты.

Каля горада Ашмяны (на паўзмежжы з Літвой) у лесе яшчэ ў пачатку XX стагоддзя пакланяліся дубу пад назвай Дэвайціс, што ў перакладзе з літоўскай мовы азначае “Божышча” [Рыков, 1914, с. 15].

Да нядаўняга часу паклонным быў і дуб каля в. Царкавішча Ушацкага раёна. 3-пад дуба выцякала крыніца,

*(Заканчэнне на стар. 6)*

# ТРЫМАЦЦА КАРАНЁЎ

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 5)*

якая таксама лічылася святой. Вадой з крыніцы лячылі вочы, а ў дупло дуба клалі плату за лячэнне. У 1923 годзе чырвонаармейцы спалілі дуб, але людзі працягвалі хадзіць на гэта месца і складалі ахвяры на абгарэлы пень [Опросные листы, справа № 71, с. 194].

Паблізу вёскі Адэлькавічы на Слонімшчыне вядомы вялізны дуб каля курганоў. У канцы XIX стагоддзя было два дубы, а яшчэ раней іх было чатыры. Дубы лічыліся зачараванымі і, па павер'ях, калі зрубіць такі дуб, ці нават узяць з яго галінкі, адарваныя ветрам, то абавязкова здарыцца якое-небудзь няшчасце — здохне конь, карова ці авечка. Расказвалі, што аднойчы арандатар графа Завішы спілаваў два дубы і ад гэтага ў яго здохла ўся жывёла. Два дубы, якія засталіся, людзі акраплялі святой вадой, і іх ніхто не чапаў [Довнар-Запольский, 1893, с. 422].

Яшчэ ў 20-я гады XX стагоддзя каля в. Дусаўшчына Капыльскага раёна гаварылі пра Змееў Дуб. Паводле падання, калісьці з Захаду на Усход ляцеў змей і сеў на дрэва. Дуб разам са змеем спалілі і на гэтым месцы ўтварыўся курган [Опросные листы, справа № 73, с. 266].

Па звестках краязнаўцаў, на беразе ракі Беразіны (Дняпроўскай) каля в. Жукавец ёсць Святы Дуб. Зараз ад яго застаўся толькі пень. На пень паляўнічыя носяць ахвяры. Калі забіваюць лася ці аленя, то нясуць сэрца жывёлы, а калі птушку — то некалькі пер'яў.

У в. Міколкі Уздзенскага раёна, па паданнях, пад дубам ляжыць залаты скарб, які закапалі французы. Месца пад дубам лічыцца ахвярным. Тут ставілі драўляныя крыжы [Кісялёў, 1994, с. 133-134]".

*Фрагмент артыкула "Культавыя дрэвы ў Беларусі".*

*Аўтар: Людміла Дучыц.*

***Крыніца:*** ***S T U D I A*** MYTHOLOGICA***SLAVICA III*** - 2000

## 2. Бялыніцкі дуб і яго лёс

На некаторых фотаздымках цяперашняй вуліцы Савецкай у мястэчку Бялынічы, якія па часе адносяцца да пачатку–сярэдзіны XX стагоддзя, дакладна бачна высокае дрэва недалёка ад месца цяперашняга скрыжавання з Садовай. Гэта знакаміты бялыніцкі дуб. Нават на самых ранніх здымках ён выглядае вышэй і магутней за іншыя дрэвы.

Шмат чаго пераждыў дуб-волат за стагоддзі свайго жыцця. Быў ён сведкам шанавання "развітога сацыялізму", калі калоны дэманстрантаў крочылі міма яго с папяровымі кветкамі. І ў той жа час "чырвонага тэрору" — выканаўцы з мясцовых структураў месціліся амаль насупраць. Пераждыў фашысцкую акупацыю і грамадзянскую вайну. Выстаяў у часы Першай сусветнай. Быў сведкам антыцарскіх паўстанняў і Напалеонаўскай кампаніі. І тое, што ён стаяў на сваім месцы ў часы Рэчы Паспалітай, уяўляецца цалкам магчымым – гэта ўсяго толькі два з паловай стагоддзі. Для дуба такі ўзрост — росквіт сілаў.

А загінуў ён недарэчна, у час, які здавалася б, ніякай ваеннай ці тэрарыстычнай небяспекі не павінен быў утрымліваць – у 2000-я гады, падчас існавання суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Спілавалі яго ў 5 гадзін раніцы 1-га траўня 2005 года. Навошта — дакладна патлумачыць зараз не можа ніхто. Дрэва абсалютна не замінала ні шляху мінакоў, ні паркоўцы аўтамабілістаў, ні пад'езду да будынкаў, ні дзейнасці супрацоўнікаў бліжэйшых установаў, не засланяла нічые вокны, не замінала сонечнаму святлу, ніякім чынам не закрывала далягляд. Яно неверагодным чынам не чапляла нікога. Нягледзячы на ўзрост, гэта было моцнае і прыгожае дрэва.

Хто адкажа на пытанне – дзе вывучаецца навука знішчаць рэдкія помнікі прыроды? Чаму ўнікальнае дрэва ў цэнтры мястэчка прасцей спіліць замест таго, каб абнесці загараддзю, усталяваць шыльду, даглядаць і клапаціцца, захоўваць і шанаваць, як сапраўдную каштоўнасць?

Хто скажа, ці ёсць людзі, якія гатовы прызнаць свае памылкі? Калі так – то ёсць сустрэчная прапанова: пасадзіць на тым самым месцы маладыя дуб. Зрабіць урачыстую акцыю, сабраць школьнікаў, жыхароў мястэчка.

Час ляціць незаўважна, і дзесяцігоддзі мінаюць з такой хуткасцю, што мы за імі не пасляваем. У 2015 годзе спаўняецца ўжо дзесяць год. Дзесяць год чаму? Акту вандалізму? Акцыі па абразе памяці продкаў? Вельмі не хацелася б увогуле ўздымаць такія тэмы. Таго, што знішчана, ужо не вернеш. Але штосьці зрабіць усё ж магчыма. Заўсёды на нашай зямлі традыцыя пасадзіць дрэва лічылася найвялікшым гонарам.

***Юрый Несцярэнка***

**Лінгвістычная даведка:**

"Індаеўрапейскія моўныя факты дапамагаюць раскрыць усю паўніню архаічнага сэнсу паняцця, якое паходзіць ад і.-е. кораня dreu- drы "быць цвёрдым, моцным, здаровым" як апісання ўласцівасцяў дрэва (dreuwo). Параўнанне:

- Стараірландская (адносіцца да кельцкіх моваў): daur, dair – дуб.
- Кімрская (валійская ці ўэльская мова, адносіцца да кельцкіх): derwen – дуб.
- Брэтонская (адносіцца да кельцкіх моваў, распаўсюджана на паўночным захадзе Францыі, у правінцыі Брэтань): deruenn – дуб.
- Ірландская: drыi – святар, друід.
- Гальская (адна са старажытных кельцкіх моваў): druides – святары, друіды.
- Албанская: dru – дрэва.
- Старажытнаславянская: дръва – дрэва.
- Старажытнагрэцкая: drыs – дуб.
- Старажытнаіндыйская: dhruvб – моцны, надзейны.
- Авестыйская (адна з самых старажытных вядомых на планеце моваў, захавалася толькі як мова богаслужэння ў сучасным зараастрызме – у парсаў Індыі і гебраў у Іране): drva – здаровы.
- Старажытнапярсідская: duruva – здаровы.
- Літоўская: drытas — моцны, цвёрды.
- Беларуская: трывалы – здаровы, моцны.

Вельмі паказальныя факты з германскіх моваў:

З аднаго боку – triu (гоцкая, старажытная мова готаў, адносіцца да ўсходняй групы германскіх моваў, у сваім паходжанні блізкая да прамовы славян), trзow (англа-саксонская – ранняя форма ангельскай мовы), tree (сучасная ангельская) – дрэва.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НАДО МЕНЯТЬ СИСТЕМУ

*(Оконч. Начало на стр. 4, 5)*

у власти в качестве «реформатора» и борца за лучшую жизнь крестьянства.

С 2008 года по такому сценарию проведено уже две «реформы» в АПК Краснопольского района : первая,— ликвидация всех крупных сельскохозяйственных производителей и создание одного крупного в лице УКСП «Краснопольское»; вторая—преобразование УКСП «Краснопольское» в ОАО «Краснопольское». При этом в структуре власти района ничего не изменилось. Как было управление сельского хозяйства и продовольствия, так и осталось.

Исходя из выше сказанного, самым главным фактором реального реформирования сельскохозяйственного производства является устаревшее мышление (менталитет) сельскохозяйственных производителей и чиновников местного масштаба, сформированное на административном патернализме. Вместо его требуется сформировать экономическое, рыночное мышление, направленное на зарабатываемость средств, предпринимательство, самохозяйствование. Новый менталитет в сложившейся системе создавать очень трудно, но необходимо. Ибо если даже предположить, что завтра А. Лукашенко уйдёт из власти, а на его место придёт человек с командой единомышленников, проповедующих рыночные методы управления экономикой страны и сельского хозяйства в частности, то на местах их вряд ли сразу поймут и поддержат. Более того, могут возникнуть серьёзные осложнения и протесты, недовольство новой властью. Люди не приучены к предпринимательству, зарабатыванию средств для своего существования, их пугает то неизвестное, которое содержит рыночное предпринимательство. Руководители, специалисты, рядовые труженики держаться за традиционные формы хозяйства, находят в них источник для выживания, и не приемлют реформ, пусть и обещающих блага.

В нынешних условиях формирование рыночного менталитета придётся начинать с азов рыночной экономики. Важно понять, что это долгий и очень кропотливый труд. С точки зрения автора этой статьи, опирающегося на оценку многих учёных и практиков аграрного производства современной Беларуси, в первую очередь следует акцентировать внимание на формирование системы менеджмента вместо устаревшего административного управления. Для этого, прежде всего, следует осознать различия между этими двумя системами.

Так, если система управления конкретным хозяйствующим субъектом построена в преобладающем числе случаев на внешнем воздействии, то это административный метод. Система менеджмента предполагает внутреннюю организацию управления субъекта. Менеджмент проявляется в самоуправлении, самохозяйствовании, самоорганизации и практически исключает внешнее управляющее воздействие. Внешнее управление, тем более централизованное, как в современных условиях Беларуси, чуждо менеджменту. В развитых




странах менеджмент и эффективное управление признаны приоритетом организации эффективного производства. Опытный и профессиональный менеджер способен организовать производство, мобилизовать работников на выполнение поставленных задач, создать условия для производительного труда, привлечь необходимые финансовые, трудовые и материальные ресурсы. Эффективный менеджер неотрывен от работы коллектива, представляет одну из функций совместного хозяйствования.

Исходя из этого, считается, что не капиталы, фонды или другие ресурсы обеспечивают решение поставленных задач, а профессиональные менеджеры. К большому сожалению, в кабинетах подавляющего большинства «государевых людей» от Лукашенко нет полного понимания важности и эффективности менеджмента. Ставка делается на материальные ресурсы и популистские прожекты, которые часто заканчиваются пустой тратой денег или посадкой очередного проворовавшегося чинуши. Во всём мире менеджменту учат, создают необходимые правовые и экономические гарантии для работы. В нынешнем же политическом и экономическом устройстве белорусского государства для эффективного менеджмента на благо членов трудового коллектива и общества в целом нет никаких условий. Надо менять систему, а не латать отдельные дыры.

***Артём СЕМЁНОВ***

## КЛАПАТЛІВЫЯ ВЫ НАШЫ…

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 2)*

прапануюць у роднай Беларусі, тая ж свініна каштуе амаль у два разы меней і г. д. Я ўжо не кажу пра аўтамабілі і будаўнічыя матэрыялы…

Таму, на маю думку, прымаючы папулісцкае рашэнне “аб замарожванні коштаў” на перыяд святаў нашы слаўныя чыноўнікі проста крыху хітруюць – на ўсю краіну нечуваны клопат пра нас, простых беларусаў, агучваюць, ну і за адно спадзяюцца, што ўсё роўна кінемся набываць да святаў “танныя” тавары. Куды мы дзенемся, навагодні стол накрываць і падарункі купляць блізкім усё роўна будзем, хоць даходы за апошнія месяцы і значна знізіліся.

Тым больш, што можна толькі здагадвацца, колькі яшчэ пратрымаецца адносна стабільны курс беларускага рубля адносна долара ЗША пасля новага года і ці не пачне ён знянацку валіцца ўжо зараз, не дачакаўшыся “чарговых выбараў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнка”…

***Іван Барысаў***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 18.12. 2014 г. у 10-00.